

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 18 (455) 10 ТРАЎНЯ 2000 г.

Генадзь Тумаш

## 14 траўня 1995

Далакопы ў гэты дзень
Мове-Матухне жывой
дол капалі, страшную магілу,
яміну глыбокую, халодную.
Запраданцы ў гэты дзень
Мове-Матухне жывой
будавалі хату,
цёмную, без вокнаў, без дзвярэй.
Супакойвалі хаўруснікаў:
аніхто яе не паратуе
і ад смерці не заслоніць,
ваяроў-заступнікаў няма.
Здраднікаў ўрадаваў загад:
чатырнаццатага траўня пахаваць
Мову-Матухну на могілках.
Цешыліся ў думках здрайцы:
з месца вечнага спачыну
не было вяртання і не будзе.
Катам чатырнаццатага траўня
смутку не навеялі хаўтуры.
На памінках прамаўлялі,
што чатыры дошкі адпусцілі
і зямлі магільнай сажань,
што ў сырой зямліцы
пахавалі Мову-Матухну.
Душагуб, які задумаў
здзейсніць гэта пахаванне,
спаў пасля паміну
дужа мала ўночы,
бо яму прысніўся страшны сон.
На магіле Мовы-Матухны
расхіліўся лес хваёвы,
расхінулася зямля,
раскалолася труна,
Мова-Матухна на ногі ўстала,
падышла да злыдня анямелага,
глянула вачыма яснымі,
вымавіла свой кароткі вырак:
"Хто капае яму на мяне,
той у гэту ж яму сам уваліцца!"—
і ад вылюдка збялелага пайшла
не адна, а з людам паспалітым,
што з пагардай адвярнуўся ад яго.

## Заява Сакратарыята ТБМ

### аб дыскрымінацыі беларускай мовы ў войску

10 гадоў мінула з моманту прыняцця Закона аб мовах. Рэспубліка Беларусь стала незалежнай дзяржавай, але беларуская мова цалкам ігнаруецца ў беларускім войску. Вайсковая прысяга на вернасць Радзіме прымаецца навабранцамі на мове суседняй дзяржавы. У беларускім войску адсутнічаюць статуты на роднай мове. Вайсковая падрыхтоўка і ўся выхаваўчая праца вядзецца выключна па-руску, у беларускім войску не гучыць беларуская вайсковая песня. Адзіная вайсковая газета "Во славу Родины" таксама рускамоўная. Паколькі бальшыня нашых хлопцаў набіраецца ў войска з невялікіх гарадоў і вёсак, дзе ў паўсядзённым жыцці дамінуе беларуская мова, лічым непрымальным стан рэчаў, калі падчас вайсковай службы яны падвяргаюцца дыскрымінацыі па моўнай прыкмеце.

У сувязі з гэтым Таварыства беларускай мовы патрабуе ад Урада Рэспублікі Беларусь зрабіць наступнае:

- Стварыць у кожнай вайсковай часці беларускамоўныя батальёны, для кіравання імі падабраць афіцэраў, якія валодаюць беларускай мовай у аб'ёме, неабходным для правядзення выхаваўчай працы і вайсковай падрыхтоўкі.
- Перакласці на беларускую мову вайсковыя статуты.
- Забяспечыць усе вайсковыя часткі тэкстам прысягі на беларускай мове, і ўрачыстасці з нагоды прыняцця навабранцамі прысягі на вернасць Радзіме праводзіць на мове тытульнай нацыі нашай краіны.
- Узнавіць курсы беларускай мовы для афіцэрскага складу.
- Надаць газеце "Во славу Родины" статус двухмоўнай і прадугледзець, каб не менш за 50% матэрыялаў друкавалася па-беларуску.

*Менск, 4 траўня 2000 г.* *Сакратарыят ТБМ*

## Падзяка сябруТБМ

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны выказвае вялікую падзяку сябру Таварыства Мазырскай гарадской арганізацыі Анатолю Скрэчку, які за некалькі дзён сакавіка сабраў 489! подпісаў за стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта..

## Увага!

Таварыства беларускай мовы аб'яўляе набор на курсы па культуры мовы для выкладчыкаў і настаўнікаў. Жадаючым звяртайцеся па тэл. 284-85-11

## Вынікі падпіскі на "Наша слова" на Гарадзеншчыне

Закончыўся чарговы этап падпіскі на газету "Наша слова". Абласное Таварыства выпісала 53 экз. газеты.

Хочам выказаць падзяку "Саюзу палякаў на Беларусі" – які аказаў дапамогу ў выпісцы газеты "Наша слова" для 36 школ г. Горадні, а таксама грамадзянам г. Горадні за аказаную фінансавую дапамогу ў падпісцы.

Астроўская Г.М. – 200.000 б.руб.
Жынь К. У. - 170.000 б.руб.
Яроцкая В.М. – 200.000 б.руб.
Брыкач У.І. – 200.000 б.руб
Іваноў А.Я. – 180.000 б.руб.
Талерчык А.С. – 500.000 б.руб.
Макарчык А.М. – 200.000 б.руб.
Шайпак У.І. – 3.000.000 б.руб.
Інжынер-рэлейшчык – 1.000.000 б.руб.

*А.І. Місцюкевіч.*

## "Эўрапейскі шлях" на Магілёўшчыне

У Вялікодны тыдзеньЗгуртаванне Беларускае Моладзі "Эўрапейскі шлях" зладзіла маштабную культурна-асветніцкую акцыю на Магілёшчыне. Яна мела дзве мэты. Першая краязнаўчая экспедыцыя, падчас якой сябры "Эўрапейскага шляху" пазнаёміліся з выдатнымі помнікамі архітэктуры і гісторыі, зафіксавалі іх, пераважна, незайздросны сёння стан. Гэта велічныя муры. Ануфрыеўскай царквы ў Сяльцы і ўнікальны касцёл у Княжыцах, што разсыпаюцца на вачах без аніякай кансервацыі; закінуты кляштар у Пустынках уражвае маштабам і прыгажосцю, як і гінучыя фрэскі ў царкве Прапойску (Слаўгараду).

Другой мэтаю была асветніцкая праца. Адбыўся шэраг творчых сустрэчаў з моладдзю Магілёўшчыны. Яны праходзілі ў форме лекцыяў пра гісторыю развіцця Хрысціянства на Беларусі, суправаджаліся слайдфільмам і патрыятычнымі спевамі. На прыкладах ахвярнасці герояў Аршанскае бітвы, на ўзгорах шэдэўраў гісторыка-культурнай спадчыны, на прыкладах нашых славутых Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Караткевіча, слухачы даведаліся шмат новых цікавых звестак па гісторыі Беларусі, адкрылі для сябе праўдзівую духоўныя скарбы.

Магілёўшчына – адзін з цудоўнейшых рэгіёнаў Беларусі, Еўрапейская Атлантыда. Яна чакае на сваё Адраджэнне.

*Аляксей Фралоў.*

## Падпіска на газету ТБМ

3 сакавіка 2000 г. Сакратарыят ТБМ падпісваў вясковыя бібліятэкі на II квартал.

Гэта: - 16 бібліятэк Бабруйскага раёна;
- 15 бібліятэк Круглянскага раёна
- 15 бібліятэк Касцюковічскага раёна Магілёўскай вобласці
- 17 бібліятэк Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці
- 27 бібліятэк Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці

Такім чынам, 90 бібліятэк на Беларусі атрымалі бясплатную падпіску.

*Сакратарыят.*

## "Таямніцы полацкай гісторыі" - 2

25 красавіка ў бібліятэцы Я.Купалы адбылася прэзентацыя другога выдання кнігі Уладзіміра Арлова "Таямніцы Полацкай гісторыі".

У зале прысутнічала каля 80-ці чалавек, у тым ліку публіцыст Аляксандр Лукашук, філосаф Валянцін Акудовіч і іншыя вядомыя людзі.

На імпрэзе Уладзімір Арлоў распавядаў пра сваё маленства адкуль і пайшло захапленне гісторыяй Полаччыны.

Пра кнігу пісьменнік сказаў, што ў другім выданні ён ужо не тлумачыць чытачам, што ВКЛ было беларускай дзяржавай, бо гэта ўжо і так само сабой зразумела.

Гучалі пытанні і адказы на іх. Было арганізавана распаўсюджанне прэзентаванай кнігі, так, што ўдзельнікі вечарыны атрымалі "Таямніцы Полацкай гісторыі" з аўтографам аўтара.

*Алесь Гурыновіч.*

## Наша рэклама

За наяўны і безнаяўны разлік:
Шпалеры з Нямеччыны, Англіі (да 100 відаў):
Жалюзі сонцаабаронныя 7 у.а. 1 м.кв.;
Карнізы аконныя;
Столі палістыролавыя, можна мыць;
Плёнка самаклейная;
Фугі, клей шпалерны;
Рэпрадукцыі вядомых Еўрапейскіх мастакоў.

Запрашаем: Мазыр, вул. Малініна, кірмаш Істпал, цэнтральны шэраг, Месца-51. Працуем штодзень з 10.00 да 14.00.
Вольны дзень – панядзелак.

## Этнатрыа "Троіца" ў Менску

5 траўня ў адной з канцэртных залаў Палаца Рэспублікі адбыўся адзіны ў гэтым годзе ў Беларусі сольны канцэрт этнатрыо "Троіца".

Пры падыходзе да ўваходу ў канцэртны зал стаялі дзесяткі людзей беспаспяхова жадаючых набыць лішні квіток. Справа ў тым, што "Троіца" ў асноўным выступае у краінах Еўропы. Напрыклад у гэтым годзе ў Галандыі плануецца выйсце дыска "Спадчына загінуўшых вёсак", сольнай працы Івана Кірчука.

Канцэрт складаўся з дзвух частак, у першай музыкі выканалі пятнадцаць сваіх твораў, у другой трынаццаць. Гледачы доўга стоячы неадпускалі выканадаўцаў, таму апошнім прыйшлося выканаць некалькі песень на біс.

Я адзначыў бы гэтую імпрэзу, як сапраўдны поспех "Троіцы". Хацелася б, каб часцей музыкі дарылі такія цудоўныя канцэрты. Аўдыёкасеты з запісамі этнатрыо "Троіца" можна прыдбаць у сядзібе ТБМ.

*Алесь Гурыновіч.*

## Пухавіцкае студэнцкае зямляцтва

Мар'інагорскае культурна-асветніцкае таварыства "Беларуская Хатка" сумесна з Задзіночаньнем беларускіх студэнтаў распачынае новы праект:

ГЭТА:
*кантакты са сваімі землякамі;
*сустрэчы з цікавымі людзьмі;
*беларускія тусоўкі;
*краязнаўчыя і этнаграфічныя экспедыцыі;
*вандроўкі па Беларусі;
*адукацыйныя праграмы;
*праца на кампутары;
*прагулкі па ІНТЭРНЭТУ;
*і шмат, шмат чаго іншага.

Штосераду а 17 гадзіне на ЗБСе па адрасе: ДАРАШЭВІЧА 4-2. Т. 232–27–43.
У Марынай Горцы т. (8-213) 45-9-62. (Алесь)

## Ахвяраванні на ТБМ

Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі падтрымаць дзейнасць Таварыства. Сёння ТБМ праводзіць адно масавае мерапрыемства за другім. Усе яны патрабуюць вялікіх выдаткаў. Сакратарыят просіць дасылаць ахвяраванні на адрас: 220005, г. Менск, Румянцава, 13, або пералічаць на рахунак ТБМ № 3015212330014 у Гарадырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска, код 764. Кантактныя тэлефоны ў Менску 284-85-11, 213-43-52.

## Паведамленне ТБМ

У выдавецкім цэнтры БДЭУ выходзіць з друку вучэбны дапаможнік для студэнтаў на беларускай мове па курсу "Тэхналогіі арганізацыі, захоўвання і апрацоўкі звестак" (папярэдняя назва курса "Прыкладныя сістэмы апрацоўкі інфармацыі), аўтар прафесар Мікола Савіцкі, сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ. Замовы па адрасе: 220672. Менск, пр. Партызанскі, 26, аддзел маркецінга, тэл. (0172) 249-21-32.



№ 18 (455) 10 ТРАЎНЯ 2000 г. наша СЛОВА

Леанід Лыч

# МАЙСКІ РЭФЕРЭНДУМ 1995 ГОДА І МОЎНАЯ СІТУАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ

Кожны чарговы год жыцця паводле прынятага ў студзені 1990г. "Закона аб мовах у Беларускай ССР з усёй пераканаўчасцю сведчыў, што яно па-сапраўднаму набывае нацыянальны характар. Нягледзячы на страшэнна высокую ступень зрусіфікаванасці беларускага народа, асабліва інтэлігенцыі, паколькі на працягу ўсяго пасляваеннага перыяду яе рыхтавалі толькі ў рускамоўных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, людзі ўсё больш пачыналі разумець, што і на Беларусі, як і ў іншых унітарных краінах, статус дзяржаўнай павінна мець толькі адна мова, прычым тая, якая з'яўляецца роднай для карэннага насельніцтва. Каб гэты самы прагрэсіўны ў гісторыі Беларусі XX стагоддзя дзяржаўны акт не застаўся на паперы, у поўнай адпаведнасці з ім быў распрацаваны і пачаў ажыццяўляцца шэраг важных захадаў па стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі, па прыярытэтным развіцці у прафесійнай культуры яе беларускіх складнікаў. Зразумела, не ўсім гэта падабалася, але якіх-небудзь адкрытых выступленняў з боку тых ці іншых груп людзей супраць дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі не назіралася. Яе дазвалялі сабе крытыкаваць, прычым без усялякіх на тое прычын, бо інтарэсы нацменшасцяў не парушалі, толькі некаторыя рускамоўныя газеты і часопісы. Часта для такіх перыядычных выданняў хапала толькі аднаго факта нежадання кагосьці паслаць сваё дзіця ў беларускамоўную школу, каб зрабіць хісткую выснову, што ў краіне нібыта ідзе гвалтоўнае стварэнне беларускай сістэмы народнай адукацыі.

У ліку найважнейшых фактараў, якія садзейнічалі сцвярджэнню беларускай мовы ў грамадскім жыцці, далёка не апошнюю ролю адыгрывала выкарыстанне яе многімі дэпутатамі ў час паседжанняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія рэгулярна трансляваліся па радыё і тэлебачанні. Стала няпісаным правілам, што ў час выбараў ва ўсе звёны органаў улады шмат хто з кандыдатаў у дэпутаты ў абавязковым парадку выказваў сваё стаўленне і па моўным пытанні. Як правіла, абсалютнай большасцю з іх публічна прызнавалася неабходнасць забеспячэння толькі за беларускай мовай, як мовай тытульнай нацыі, статусу адзінай дзяржаўнай. Праўда, кандыдатамі ў дэпутаты выказваліся і зусім не ўласцівыя сусветнай практыцы рэгулявання моўных працэсаў погляды: такі статус на Беларусі трэба надаць яшчэ і рускай мове. Цвёрда стаялі на такой пазіцыі і два асноўныя прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч і Аляксандр Лукашэнка. Таму з прыходам любога з іх да ўлады мала хто спадзяваўся, што краіна будзе набіраць тэмпы, павялічваць маштабы свайго нацыянальна-культурнага адраджэння. Аднак неўзабаве здарылася такое, што людзі падобных поглядаў, здавалася, па-буйному праліčыліся. На вялікую радасць многіх нацыянальных патрыётаў ім нечакана-негадана ў ліпені 1994 г. давялося перажыць шчаслівую хвіліну: чуць беларускамоўную прысягу першага ў нашай гісторыі прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі пад час яго інаўгурацыі. Да гэтага ў афіцыйных выступленнях ён карыстаўся толькі рускай мовай. І раптам загаварыў па-беларуску. У многіх людзей, якія, нягледзячы на працяглае і моцнае ўздзеенне на іх асіміляцыйнага прэсу, не адышлі ад нацыянальнай ідэі, з'явілася светлая надзея, што жыццё беларускага народа стане на ўласны прыродны грунт, захавае і ўзбагаціць сваю самабытнасць, вернецца на законны пасад родная мова, на якім столькі часу за гаспадыню сядзела спачатку польская, а затым руская мова. Усе, хто так думаў, моцна памыліліся. Гэта быў звычайны і вельмі тыповы практычна для ўсіх палітыкаў рэверанс, які робіцца з мэтай прыцягнуць на свой бок пэўную катэгорыю насельніцтва, пасля чаго іх дзейнасць ізноў уступае ў ранейшае рэчышча. Таму ўжо на другі-трэці дзень пасля інаўгурацыі А. Лукашэнкі стала зразумелым, што нічога добрага не чакае беларускую мову, што наўрад ці ўдасцца захаваць за ёю тыя пазіцыі, на якія яна паспела выйсці дзякуючы правядзенню ў жыццё Закона аб мовах. У рускамоўным перыядычным друку пачалі яшчэ больш крытыкаваць яго. Пісаць жа альбо гаварыць у абарону апошняга ці ўвогуле весці размову з чытачом пра ролю нацыянальнай мовы ў адраджэнні, духоўным жыцці беларускага народа, што крайне неабходна было рабіць, улічваючы страшэнную дэфармацыю яго этнічных асноў, практычна не існавала аніякай магчымасці праз афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, бо яны знаходзіліся пад строгім урадавым наглядам. Ніхто з высокіх палітыкаў не адважыўся выказацца па гэтым лёсавызначальным пытанні. Відаць, чакалі такога ад першай дзяржаўнай асобы. І дачакаліся. Ужо ў першы год прыходу да ўлады А.Лукашэнка пастараўся дакладна сфармуляваць свой афіцыйны погляд на яго, каб людзі ведалі, на што тут трэба ім арыентавацца. Для выкладу сваёй пазіцыі прэзідэнт абраў даволі самавітую аўдыторыю: сустрэчу з дэпутатамі Гомельскага гарсавета, якая адбылася 1 снежня 1994г. З вуснаў дзяржаўнай асобы яны пачулі наступнае: "*Людзі, якія гавораць на беларускай мове, не могуць рабіць нічога, як толькі гаварыць на беларускай мове, таму што на беларускай мове нельга сказаць нешта вялікае. Беларуская мова – бедная мова. У свеце існуюць толькі дзве вялікія мовы – гэта руская і англійская*". У сваёй негатыўнай ацэнцы найдаражэйшага духоўнага скарбу беларускага народа – мовы – першая дзяржаўная асоба нашай краіны была зусім неарыгінальнай, бо і да гэтага нешта падобнае выказвалася. Так, на паседжанні польскага ўраду ад 18 жніўня 1926 г. дыктатар Польскай Дзяржавы Юзаф Пілсудскі (дарэчы, меў беларускія этнічныя карані) не пасаромеўся з высокай трыбуны заявіць, што беларуская мова "*з'яўляецца настолькі цяжкай і нераспрацаванай* (тут трэба было б сказаць па чыёй віне. – Л. Л.), *што яна не можа быць мовай школы і органаў кіравання*". І хоць Юзаф Пілсудскі быў ненавіснікам Беларускай суверэннай дзяржавы, яе палітыкі і раней і зараз бездакорна праводзяць у практыку яго запавет, што беларуская мова "*не можа быць мовай школы і органаў кіравання*". Вельмі блізкай да Юзафа Пілсудскага пазіцыі датычна беларускай мовы трымаўся і яго паплечнік міністр замежных спраў Польшчы Бек. Вось адно з яго выказванняў: "… *беларуская мова неразвітая і мала карысці прыносіць яна тым, хто ёю валодае і хто на ёй вучыцца*".

А як многа можна было пачуць абразлівага для беларускай мовы з вуснаў высокіх асобаў праваслаўнага духавенства ў самы пік нашага сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Каб у яго актывістаў адбіць жаданне чуць сваю мову ў час набажэнства ў праваслаўных храмах, заяўлялася, што гэтага нельга зрабіць з прычыны яе немілагучнасці. Без усякіх важкіх доказаў сцвярджалася, што на беларускую мову нельга перавесці і кнігі Свяшчэннага Пісання.

Хацелася б па-чалавечы папярэдзіць сучасных палітычных дзеячоў Беларусі і афіцыйнай арыентацыі інтэлігенцыю: што б зневажальнага вы не сказалі на адрас беларускай мовы, ведайце, што гэта ўжо даўно прагучала з вуснаў ці выйшла з-пад пяра ідэолагаў і праваднікоў палітыкі паланізацыі і русіфікацыі нашага народа. Тут проста немагчыма штосці новае сказаць.

Пасля выступлення А. Лукашэнкі ў Гомелі нават палітыкі раённага маштабу, дырэктары агульнаадукацыйных школ ведалі, якое месца належыць адводзіць беларускай мове ў сферы іх дзейнасці. Вось толькі Закон аб мовах не даваў ім для гэтага шырокай прасторы. Ды і сямтам пасля прыняцця яго на кіруючых пасадах апынулася нямала апантаных нацыянальнай ідэяй людзей, якія маглі б аказаць рашучае супраціўленне любым дыскрымінацыйным захадам супраць беларускай мовы. Але палітычная сістэма, што ўсталявалася ў рэспубліцы пасля таго, як яна стала прэзідэнцкай, дазволіла вельмі хутка вызваліцца ад такіх шчырых беларусаў, што крайне пажадана было афіцыйным асобам зрабіць такое, паколькі ў грамадстве з лёгкай падачы дзяржаўных дзеячаў вельмі ўжо актыўна абмяркоўвалася пытанне аб неабходнасці правядзення рэферэндуму, які павінен быў вырашыць і лёс беларускай, і рускай моваў. Падрыхтоўка да яго правядзення стала галоўнай палітычнай задачай ураду Рэспублікі Беларусь, які, трэба аддаць яму належнае, змог перацягнуць на свой бок шырокія колы здэнацыяналізаванай, адарванай ад роднай глебы інтэлігенцыі.

На народ абрынуліся велізарныя патокі самай хлуслівай інфармацыі па моўным пытанні, чаго ніколі не назіралася нават за савецкай уладай. Нешта падобнае можна было адшукаць толькі ў далёкай гісторыі, калі дзяржаўную моўную палітыку ў нас фармаваў галоўны начальнік Паўночна-Заходняга краю, душыльнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863-1864 г.г. Міхаіл Мураўёў (1863-1865). Ва ўсіх перадачах па радыё і тэлебачанні, у газетных артыкулах пераконвалі беларусаў у выключна вялікай гістарычнай ролі ў іх духоўным жыцці рускай культуры і мовы. Не саромеліся заяўляць, што беларусы, у адрозненне ад усіх народаў Еўропы, змогуць далучыцца да найважнейшых дасягненняў сусветнай цывілізацыі не праз сваю родную мову, а толькі праз рускую. Знаходзіліся смельчакі – і іх ніхто не абсякаў, - якія публічна заяўлялі аб адсутнасці ў беларускай мовы ўсякіх самабытных рысаў, што яна ёсць штучны набор слоў з суседніх ёй славянскіх моваў – рускай, польскай і ўкраінскай. З усёй гэтай бязглуздзіцы, падобна русіфікатарам царскай Расіі, рабілі і такую ж бязглуздую выснову аб неіснаванні самабытнай беларускай нацыі. Пасля такой ідэалагічнай апрацоўкі масаў сярэднестатыстычнаму беларусу нічога не каштавала выказацца за юрыдычнае наданне рускай мове такога ж самага статусу, як і беларускай.

У афіцыйных сродках масавай інфармацыі шмат гаварылася пра выключную дэмакратычнасць такой формы народнага волевыяўлення, як рэферэндум (плебісцыт). А калі хоць трохі ўглыбіцца ў гісторыю, дык нават неспецыяліст убачыць, што яшчэ ніводнай краіне не ўдалося па-сапраўднаму дэмакратычна выявіць волю свайго насельніцтва праз рэферэндум. Заўсёды знаходзіліся ўвішныя палітычныя дзялкі, якія гэты толькі вонкава дэмакратычны сродак умела выкарыстоўвалі выключна ў сваіх вузкагрупавых інтарэсах, абводзячы вакол пальца ледзь не ўвесь народ. Добра гэта атрымлівалася і ў тых, хто хацеў перарабіць наш край на свой капыл пад час, калі ішла Першая сусветная вайна. Вельмі абгрунтаваны даў адказ тым, хто імкнуўся рукамі слабадасведчанага народа заваліць тую ці іншую важную для беларускай ідэі справу, рэдактар газеты "Вольная Беларусь" Язэп Лёсік: "*І дзіўная гэта звычка ў людзей пасылацца на народ там, дзе яно зусім ні да рэчы* (тут мелася на ўвазе апытанне пра абласную аўтаномію і нацыянальную школу на Беларусі. – Л.Л.). *Ува ўсіх іншых пытаннях мы зьвяртаемся да знаўцаў і спецыялістаў, а вот пры дзяржаўным будаванні здавальняемся думкамі такіх майстроў, як цёмны, нікультурны народ, каторы ў халерны год забіваў дактароў, а ў час рэакцыі лавіў ды выдаваў царскай паліцыі рэвалюцыянераў, паламаўшы ім рэбры… Народ – добрая рэч, але яму трэба расказаць, растлумачыць, яго трэба спачатку асьвяціць, навучыць, а ўжо потым клікаць да сябе на параду…*"*(Вольная Беларусь.* 17.09.1917г.)

Хацелася б адзначыць, што яшчэ задоўга да Язэпа Лёсіка слынны нямецкі паэт і тэарэтык мастацтва Фрыдрых Шылер (1759-1805) пі-саў: "*Мераю справядлівасці не можа быць бальшыня галасоў*".

Напярэдадні майскага рэферэндуму 1995г. гаварылі з народам і мо больш, чым трэба. Але гаварылі і схілялі яго да таго, што зусім не скіравана было на выратаванне беларускай мовы ад канчатковага занянаду. Урад "суверэннай" Беларусі не палічыўся са станоўчай міжваеннай практыкай правядзення палітыкі беларусізацыі. Тады таксама прапаноўвалі, прычым і студэнты ВНУ, будучы падбухторанымі сваімі педагогамі, вырашаць пытанне з беларусізацыяй не на дзяржаўным узроўні, а праз галасаванне ўсяго народа. Улічваючы даволі высокую ступень яго русіфікацыі, наяўнасць сярод многіх буйных палітыкаў, кіраўнікоў наркаматаў і ведамстваў, прадпрыемстваў і ўстаноў, самой інтэлігенцыі вялікай колькасці людзей з нядобразычлівымі, а то і адкрыта варожымі поглядамі на ўсё беларускае, дзяржаўныя і партыйныя органы не пайшлі на правядзенне рэферэндуму. У маі ж 1995г. вырашылі зрабіць усё наадварот, бо баяліся дачакацца такога, што пачатая ў канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў беларусізацыя рашучым чынам паверне людзей да сваіх прыродных вытокаў, зробіць свядомымі і шчырымі носьбітамі беларускай культуры і мовы. Гэтай пакуль што яшчэ не вызваленай ад асімілятыўнага ярма масе, даўно зарыентаванай палітыкамі і адданай ёй часткай інтэлігенцыі на рускую культуру і мову, і прапанавамі выказацца пра надзвычай складанае пытанне аб мове. Ніхто з архітэктараў рэферэндуму не сумняваўся, што бальшыня яго ўдзельнікаў пагодзіцца на наданне рускай мове аднолькавых сацыяльных функцый з беларускай, не разумеючы, што ў выніку такой роўнасці ёй давядзецца саступіць месца першай, паколькі яна мела непараўнальна багатую практыку абслугоўвання ўсіх сфераў дзяржаўнага, грамадска-палітычнага і духоўнага жыцця, панавала ў аўдыторыях вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы, сродках масавай інфармацыі. Вярнуць роднае слова беларусаў да жыцця можна было толькі непахісна выконваючы Закон аб мовах, а не шукаючы яму альтэрнатыву нават і ў форме рэферэндуму. Каб ініцыятары рэферэндуму былі хоць крыху зацікаўленымі ў беларускім нацыянальным Адраджэнні, духоўным росквіце Бацькаўшчыны, яны ніколі не пайшлі б на правядзенне такой забойнай акцыі. Бо навошта яна, калі ў нацыянальным жыцці і так ужо сталі прыкметнымі пэўныя зрухі да ўсталявання на практыцы беларуска-рускага моўнага парытэту: на беларускай мове загаварыла з недэфармаванай этнічнай самасвядомасцю частка палітыкаў, інтэлігенцыі, гарадскога насельніцтва. Беларуская мова пачала пранікаць у канцылярыі многіх органаў дзяржаўнай улады і кіравання, аўдыторыі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.





**Леанід Лыч**

# МАЙСКІ РЭФЕРЭНДУМ 1995 ГОДА І МОЎНАЯ СІТУАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ

Але самым велізарным, проста гістарычным дасягненнем на шляху нашага Адраджэння трэба прызнаць факт, што ў 1994/95 н.г. 76% агульнай колькасці першакласнікаў са згоды сваіх бацькоў пайшлі вучыцца ў беларускамоўныя класы. Можа хтосьці з моўна асіміляваных бацькоў і не жадаў такога, але ж мы ведаем, што пры правядзенні любых буйнамаштабных мерапрыемстваў, – а стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі адносіцца да такой катэгорыі, – у якіх зацікаўленая абсалютная бальшыня людзей, заўсёды пэўная частка іх не знаходзіць для сябе асаблівай радасці ў такіх мерапрыемствах. Што ж, даводзіцца падпарадкавацца абставінам. Сведчаннем рашучага павароту беларусаў да сваіх нацыянальна-культурных традыцый стала агульнанародная павага да тых, хто ў грамадскім месцы размаўляў па-беларуску. З іх ужо не кпілі і не называлі, як раней, нацыяналістамі. Не ставала зусім малога, каб беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне набыло незваротны характар. Гэта добра разумелі адарваныя ад нацыянальных каранёў палітыкі і інтэлігенты і таму кінулі на шалі Адраджэння рэферэндум у надзеі, што з дапамогай тонка ажыццёўленай ідэалагічнай апрацоўкі беларусаў, якія толькі-толькі паверылі ў свае сілы, удасцца іх вярнуць на выверaны многімі гадамі шлях рускай культурна-моўнай асіміляцыі.

Чым менш заставалася дзён да правядзення рэферэндуму, тым больш трывожныя меркаванні пра лёс беларускай мовы выказвалі людзі ў сваіх лістах у рэдакцыі газет. Праўда, рэагавала на гэта толькі неафіцыйная прэса са сваімі крайне мізэрнымі накладамі. Найбольш лістоў паступала ў газеты "Літаратура і мастацтва" і "Наша слова" (штотыднёвік Рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны). Нельга было без хвалявання і болю ў грудзях чытаць Зварот маладых сем'яў да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі: "Мы не заклікаем нікога да непадпарадкавання, не паграnumerаем грамадзянскаю вайною і страйкамі, але мы адстойвалі і будзем адстойваць наша права на родную мову... Праводзьце свой рэферэндум, пан прэзідэнт, аднак ведайце, што ёсць на Беларусі беларусы, якія хочуць выхоўваць дзяцей на беларускай мове. Паколькі мы ёсць і гэтая зямля пакуль яшчэ нашая, вы павінны лічыцца з намі" (Літаратура і мастацтва. 12.05.95г.С.2). Улады не палічыліся з такім жаданнем, бо ў іх на першым месцы былі інтарэсы рускамоўнага насельніцтва, засіміляваных беларусаў, да якіх яны і самі ў сваёй пераважнай бальшыні належалі. Юрыдычнае вяртанне рускай мове тых правоў, якія ўжо на працягу некалькіх стагоддзяў былі замацаваны за ёю на практыцы, вызваляла чыноўнікаў усіх рангаў ад валодання беларускай мовай, дзеля чаго яны гатовыя былі пайсці не толькі на рэферэндум, а і на яшчэ больш рашучыя крокі антыадраджэнскага характару, не зважаючы, як усё гэта адаб'ецца на лёсе тытульнай нацыянальнасці краіны.

Напярэдадні "гістарычнай падзеі", да якой каманда прэзідэнта краіны вяла людзей, паэт Міхась Башлакоў з такімі горкімі словамі звярнуўся да іх у вершы "Сон перад рэферэндумам":

*Мой народ*
*На апошняй сваёй*
*пераправе:*
*Паміpae народ,*
*Калі мовы ў народа няма...*
***(Літаратура і мастацтва. 12.05.95г.С.1.)***

У той адказны для беларусаў час у баку ад іх праблем не засталіся сябры-украінцы. У лісце ад 4 мая 1995г. "Да грамадзян незалежнай Беларусі", які падпісала дзевяць вядомых палітычных і культурных дзеячоў суседняй краіны, былі такія папераджальныя словы: *"Калі вы прагаласуеце за дзяржаўнасць расійскай мовы на сваёй зямлі, то гэтым самым асудзіце на смерць пявучую мову Скарыны і Коласа, Багдановіча і Купалы, Быкава і Барадуліна. Ніколі ўжо ворагі беларускай мовы, якіх до-бра бачыў вялікі патрыёт Янка, неададуць ёй падняцца. Дзвюхмоўе – гэта гадзючая двухязыкасць, якое прапагандуецца толькі з адной мэтай – забіць беларускую душу, беларускую мову і культуру, знішчыць падмурак беларускай дзяржаўнасці"* ***(Літаратура і мастацтва. 12.05.95г.С.2).***

Улічваючы мізэрны наклад газеты "Літаратура і мастацтва", дзе былі змешчаны верш М.Башлакова і ліст з Украіны, з іх зместам удалося пазнаёміцца толькі вузкаму колу людзей. Дзеля гэтага куды лепш было б выкарыстаць афіцыйныя рэспубліканскія газеты як больш масавыя. Але, як зараз вядома, практычна ўсе яны знаходзіліся ў руках тых, каго зусім не рупіла расправа дзяржавы з роднай мовай беларусаў.

У той крайне небяспечнай сітуацыі на куды больш шырокую аўдыторыю са сваімі антыбеларускімі поглядамі маглі выходзіць і афіцыйныя электронныя сродкі масавай інфармацыі. Тут не дапускалася аніякая крытыка спробаў дзяржавы забіць асінавы кол у самае сэрца беларускай нацыі – мову. Наадварот, сцвярджалася, што ад заняпаду яе выратаваць можна толькі з дапамогай рускай мовы, якую Закон аб мовах незаслужана пасунуў на задні план. Асабліва вялікую актыўнасць па вяртанні рускай мове яе колішніх юрыдычных правоў праяўляла на Беларускім тэлебачанні спецыяльна створаная каманда выступоўцаў. У яе склад уваходзілі пераважна прадстаўнікі Славянскага сабора "Белая Русь" У. Гасцюхін, В.Арлоў, І.Гукоўскі, А.Кузьміч, Г.Марчук, В. Тураў, Ю.Дудзінаў, М. Сяргееў (ЛіМ.12.05.95г.С.2); шэраг іншых асобаў, вядомых сваім непрыняццём дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, непрызнаннем беларускага народа як самабытнага этнасу, адмаўленнем існавання арыгінальнай беларускай мовы. За наданне разам з ёю статусу дзяржаўнай і рускай выступалі і некаторыя беларускія пісьменнікі. Добра паспрыяў фармаванню ў людзей жадання падтрымаць ідэю рэферэндуму міністр адукацыі Васіль Стражаў у сваёй заяве, што была надрукавана акурат напярэдадні той падзеі. У заяве ў лаканічнай форме сцвярджалася: "1. Лічу, што рэферэндум не накіраваны на знішчэнне беларускай мовы. ... 3. Беларуская мова як дзяржаўная атрымлівала і будзе атрымліваць дзяржаўную падтрымку, пра што неаднаразова ў маёй прысутнасці заяўляў Прэзідэнт".

Ці ж мог просты люд, прачытаўшы такія словы, хоць трохі засумнявацца ў добрых намерах ініцыятараў рэферэндуму? Вядома, не. Адчуць сябе моцна падманутым ён змог толькі тады, калі літаральна ўжо ў першыя месяцы пасля рэферэндуму не стаў чуць беларускую мову там, дзе яна гучала да гэтае пары, калі старонкі падпісаных ім беларускамоўных газет і часопісаў былі забіты рускамоўнымі публікацыямі, а ў некаторых нацыянальных перыядычных выданнях ад беларускай мовы засталіся толькі адны загалоўкі, дый то ў параўнанні з рускамоўным напісаннем набраныя дробным шрыфтам.

Зразумела, згаданая вышэй заява міністра адукацыі вельмі добра дапамагла збіць з панталыку і значную частку настаўніцтва, што адпаведным чынам паўплывала на яе пазітыўнае стаўленне да рэферэндуму і характар растлумачальнай працы з бацькамі сваіх вучняў адносна галоўнага яго пытання – мовы. Людзей схілялі двума рукамі падтрымаць ініцыятыву прэзідэнта краіны. Такіх педагогаў зусім няцяжка зразумець. Жывучы пераважна ў рускамоўным асяроддзі, атрымаўшы адукацыю выключна толькі на рускай мове, якая пазней і стала адзіным сродкам навучання ў школе настаўнікаў, яны, як ніякая іншая катэгорыя інтэлігенцыі, былі зацікаўлены ў непахіснасці месца і ролі гэтай мовы ў грамадстве. Зыходзячы з такіх прагматычных, а не нацыянальна-адраджэнскіх пазіцый, яны як толькі маглі агітавалі ў першую чаргу бацькоў сваіх дзяцей, а затым ужо і іншых выказацца ў час рэферэндуму за роўнасць беларускай і рускай моваў, хаця, напэўна ж, ведалі, што для першай такая роўнасць будзе азначаць канчатковы заняпад. Не заўсёды разумна паводзілі ў гэтай сітуацыі нават і многія з тых настаўнікаў, што некалі паканчалі беларускія аддзяленні ці факультэты вышэйшых навучальных устаноў.

Каб пазбавіць нацыянальна-свядомую інтэлігенцыю нават самай мізэрнай магчымасці тлумачыць народу праз друкаванае слова ўсю небяспеку для беларускай мовы задуманага рэферэндуму, за колькі дзён да яго правядзення быў спынены, нібыта ў сувязі з цяжкім фінансавым становішчам выдавецтва "Полымя", выпуск самых прагрэсіўных беларускіх газет, у т.л. "Літаратура і мастацтва", "Культура", "Наша слова", "Голас Радзімы", "Настаўніцкая газета". А гэта ж якраз тыя друкаваныя органы, што праяўлялі найбольшую заклапочанасць лёсам роднага слова сваёй краіны. Такая архінеспрыяльная для нацыянальна-адраджэнскага руху сітуацыя склалася напярэдадні правядзення задуманага яго праціўнікамі рэферэндуму.

14 мая 1995 г., г.зн. праз пяць дзён пасля таго, як у краіне было адзначана пяцідзесяцігоддзе перамогі над фашысцкай Германіяй, нашыя ўлады ў працяг усёй папярэдняй палітыкі русіфікацыі, атрымалі з дапамогай збітага з панталыку народа новую "чарговую перамогу" над яго родным словам. Напачатку трагізм гэтай з'явы разумеўся далёка не ўсімі людзьмі, бо ім месяцамі цвердзілі, калі падтрымаеце прэзідэнцкую ідэю рэферэндуму, дык на практыцы ўсталюецца роўнасць вашай роднай беларускай мовы з суседняй рускай, і яны нібыта сіямскія блізняты будуць жыць паміж сабою ў братэрскай згодзе, а калі ж узнікнуць якія-небудзь супярэчнасці, канфліктная сітуацыя, дзяржава адным узмахам рукі навядзе належны парадак. Усю шкоду і нерэальнасць такой уяўнай моўнай роўнасці добра прадбачылі толькі спаўна надзеленыя розумам людзі, але ў іх не было як давесці пра гэта народу. Таму ў сваёй масе ён падтрымаў тых, хто меў неабмежаваныя магчымасці ўплываць на яго напярэдадні і ў час правядзення рэферэндуму.

У адпаведнасці з яго вынікамі рускую мову ўраўнялі ў юрыдычных правах з беларускай, а вось ураўняць адну з адной фактычна па аб'ёме ўскладзеных на іх функцый ніхто і не падумаў. А ў гэтым жа плане суадносіны паміж беларускай і рускай мовамі нават у самы пік нацыянальна-культурнага Адраджэння былі на карысць апошняй. Ад яе ўдалося адняць і перадаць беларускай мове толькі мізэрную долю такіх функцый, але іх адразу ж пасля рэферэндуму, не чакаючы зацвярджэння яго вынікаў Вярхоўным Саветам РБ, пачалі планамерна адбіраць ад беларускай і перадаваць рускай. Асабліва шчыравалі з такім абрабаваннем беларускай мовы ва ўсіх звёнах народнай адукацыі.

У друку таго часу справядліва адзначалася, у т.л. і педагогамі агульнаадукацыйных школ, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, што нечувана магутны ўдар па беларускім агульнанацыянальным інтарэсе адразу ж пасля рэферэндуму быў нанесены пастановай міністра адукацыі РБ Васіля Стражава аб праве выбару абітурыентамі ўступнага экзамена па мове, што давала ім магчымасць паступіць на вучобу пры нулявых ведах па беларускай мове. У такіх варунках яе трэба было вывучаць у агульнаадукацыйных школах толькі ў такой ступені, каб не атрымаць "двойкі" на выпускных іспытах. Дзеля апраўдання з'яўлення на свет вышэйпрыведзенай антыбеларускай пастановы міністра адукацыі, спасылаліся на факты, што ў шэрагу ВНУ абітурыенты часцей у якасці ўступнага іспыту па мове выбіралі беларускую, чым рускую, забываючы, што для многіх з іх гэта быў тактычны прыём: да сачыненняў на беларускай мове могуць быць пастаўленыя не такія высокія патрабаванні, улічаць гаротны стан апошняй у грамадстве, неабходнасць павышэння яе прэстыжнасці. Толькі адзінкі са студэнтаў, што здавалі ўступны іспыт па беларускай мове, затым карысталіся ёю пры сваіх адказах на семінарскіх занятках, у міжасабовых зносінах з сябрамі па вучобе. Калі зыходзіць з патрабаванняў рэферэндуму 1995 г., кожны студэнт абавязаны здаваць уступны іспыт і па беларускай, і па рускай мовах, і на кожнай з іх павінна выкладацца аднолькавая колькасць дысцыплін ва ўсіх тыпах навучальных устаноў, у т.л. і недзяржаўных.

Такая адкрытая дыскрымінацыя беларускай мовы ў сферы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы заставалася не заўважанай тымі, хто павінен быў бачыць гэта. Афіцыйны друк цалкам адхіляў падобную дыскрымінацыю і падаваў сваім чытачам моўную палітыку Рэспублікі Беларусь як узор цывілізаванага развязвання гэтай складанай праблемы. Толькі з такіх пазіцый па пытаннях мовы выступалі і самі дэпутаты, работнікі ўсіх уладных структур. Па гэтай прычыне рос недавер, што дэпутаты узважана, паважліва паставяцца да роднага слова беларусаў, калі яно будзе абмяркоўвацца ў час паседжання Вярхоўнага Савета РБ. Разам з зусім заканамерным у тых умовах ростам недаверу, у значнай часткі народа, у т.л. і моладзі, узнікала абурэнне супроць тых, хто адкрыта выступаў у ролі далакопа беларускай мовы. Тагачасную моўную сітуацыю вельмі добра ахарактарызавала студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Вера Буланда наступнымі вершаванымі радкамі:

*Бо давесці цяжка да*
*свядомасці*
*Выракшыся мовы халуёў,*
*Што каштоўней ад усіх*
*маёмасцей*
*Мілагучнасць беларускіх*
*слоў.*
***(Настаўнік. 13.06.96)***

І тым не менш у шчыра заклапочаных лёсам Бацькаўшчыны людзей усё ж тлела нейкая надзея, што тыя велізарныя страты, якія беларуская мова панесла ўжо на працягу першых месяцаў пасля майскага рэферэндуму 1995г., дапамогуць дэпутатам Вярхоўнага Савета РБ зразумець хібнасць падобнага кірунку ў моўнай палітыцы, і яны не зацвердзяць вынікаў апытання народа. Паставіцца крытычна да рэферэндуму заклікалі дэпутатаў многія публікацыі ў дэмакратычнай прэсе. Не пагадзіцца з іх высновамі маглі толькі палітыкі, для якіх зусім не важна, будзе існаваць беларуская мова, ці не, напаткае беларусаў поўная руская культурна-моўная асіміляцыя ці яны, нарэшце, выйдуць пераможцамі ў шматгадовым змаганні з гэтым ліхам. На вялікі жаль, на дзяржаўным узроўні з ім не пажадалі як след паваяваць.

*(Працяг на старонцы 4)*

